# БЕЛАРУСКІ ЗВОН

ТЫДНЁВАЯ ЧАСОПІСЬ

**Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі:** Вільня, Вострабрамска вул. 9 (Ostro-bramska 9). Рэдакцыя адчынена: 12—2 штодня апрача сьвяточных дзён.

Рукапісы павінны быць напісаны чытальна і толькі на адным баку паперы, з праўдзівым прозьвішчам аўтара і адрэсам для ведама Рэдакцыі. Няпрынятыя у друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукаванага залежыць ад Рэдакцыі.

**Цана кожнага нумару 50 м.** Падпіска на 3 месяцы каштуе 600 м. (з даст. да хаты). Цана абвестак: перад тэкстам 200 мк., зарод тэксту 300 мк. і на апошняй страніцы 120 мк. за радок пэтыту у 1 шпальт.

Год II. Вільня, Пятніца 27-га кастрычніка 1922 г. № 29 (54).


# Беларусы, галасуйце за свой сьпісак № 16!

## Падшывальцы.

Людзі, што йшчэ ўчора зачынялі беларускія школы, разганялі вучняў і вывозілі вучыцялёў з роднага краю—„за дрот“,—людзі, што ня прызнавалі беларускае мовы і, ламаючы сваю-ж канстытуцыю, забаранялі вучыць у гэтай мове беларускіх дзяцей,—гэтыя самыя людзі цяпер у часе выбараў у Сойм і Сэнат, неўспадзеўкі самі загаварылі да нас беларусаў!

Няма, бадай, ніводнае польскае партыі, якая-бы не пасылала ў нашы вёскі агітатараў, што гавораць па беларуску. Дый мала таго: свае адозвы і газэты іншыя з іх пачалі друкаваць у гэтай—як яны звычайна называюць—„хамскай“ мове.

Нам прыслалі цэлы жмут розных друкаў беларускіх, выдаваных палякамі.

Перад усім—выданьні „вызваленцаў“. Трэба сказаць, што тыя першыя пачалі апранацца ў беларускую вопратку, каб нашымі галасамі правясьці ў Сойм сваіх людзей. Іхных выданьняў з нумарам „3“—найбольш.

За імі сьледам ідуць „рады людовыя“—тыя самыя „рады“, што былі ўтвораны ў нас у часе польскае ваеннае окупацыі дзеля барацьбы з беларушчынай. Вось, і яны выпусьцілі адозву з эсэраўскім лёзунгам: „Зямля і воля працоўнаму народу“—па беларуску. Яны суляць нашым сялянам усё тое, чаго дагэтуль ніхто з іх і ня думаў даваць і, папаўшы ў Сойм, ведама, ня дасьць! Яны клічуць галасаваць за № 6.

Па беларуску-ж выступіў і „Польскі Цэнтр“ — № 12. Гэтыя паны ўжо навет і зямлі ня суляць, а толькі зьбіраюцца даходзіць „аблягчэньня пазычкі зямельнай“, каб народ гэтай пазычкай закабаліць на дзесяткі гадоў, абярнуць у нявольнікаў, што ўсе плады сваей працы павінны будуць аддаваць у панскія кішані!

Далей ідзе хаўрузія польскіх паноў-абшарнікаў з нашага краю, якія ўзіраючыся на маскалёў, навет імя нашае зямлі выкінулі з ужытку ды назвалі яго „крэсамі“. Называецца гэтая хаўрузія „Дзяржаўнае Зьеднаньне на Крэсах“ і мае нумар 22. І гэтыя паны, забыўшыся нашае імя, усё-ж пішуць свае адозвы па беларуску...

Урэшце, не давяраючы павазе свайго імя, хоць і прыбранага ў беларускія словы, паны ўзялі да сябе на службу хаўру нягоднікаў, што запэцкалі свае рукі крывёй бязьвінна забіваных імі людзей, ды на вялікі жаль, паходзяць з нашага-ж беларускага народу. Гэтыя вырадкі, даўно ўтраціўшыя свае сумленьне, выступаюць цяпер на абарону паноў, як беларусы; на чале іх стаіць вядомы пагромшчык, „бацька“ Балаховіч, што рубіць цяпер Белавежскую пушчу і гэтак памагае рабаваць наш край. Сюды-ж належыць і банда „зялёнадубцаў“, каторыя з рэвальвэрамі ў руках урываюцца на беларускія зьезды і стараюцца гвалтам перашкодзіць народу выбраць у Сойм запраўдных народных абаронцаў. Урэшце, дзеля паноў працуюць і так-званыя „актывісты“, якія разам з „зялёнадубцамі“ агітуюць за польскія сьпіскі—„22“ і „2“.

А ведаеце, які той № 2?—Гэта П. П. С. — „Польская Партыя Соцыялістаў“. У добрую хаўрузію папалі польскія соцыялісты „на крэсах“!

Мы тут пералічылі ўсіх тых ваўкоў, што падшываюцца пад беларускае імя і сваімі беларускімі адозвамі хочуць абаламуціць наш народ. Ясна, што за гэтых падшывальцаў ніводзін беларус не павінен даць свайго голасу.

Ясна таксама, што нам больш не па дарозе з тымі польскімі партыямі, якія навет на час выбараў ня хочуць загаварыць „па хамску“. Ясна, што за такія партыі галасаваць мог-бы толькі той, хто зусім утраціў розум ці прадаў сумленьне.

Адзіны сьпісак, дзе ёсьць запраўдныя сыны беларускага народу—сыны мужыкоў-хлебаробаў, гэта сьпісак № 16. І кожын беларус павінен даць свой голас за № 16, калі хоча лепшае долі сабе і сваім дзецям.

**М. Малішэўскі.**

**Памятайце, што номер 16 павінен быць надрукованы альбо напісаны на картачцы з чыстай, белай паперы, бо толькі такі номер будзе прымацца ў лік.**

